Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 32 | Пятніца, 10-га Кастрычніка 1924 г. | Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры [illegible]ы ў тыдзень. | Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 мес[illegible] 1 злоты 80 гр.
За гра[illegible]ая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз.
Рэдактар прымае ад 11 — 1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр.; у тэксьце — 10. гр.; на апош. стар. — 5 гр.

## Перад сэсіяй Сойму.

Летнія вакацыі Сойму й Сэнату Польскае Рэспублікі зацягнуліся. Падчас пярэрвы ў пленарных паседжаньнях законадаўчых палатаў адбыліся шмат якія падзеі ўнутранага і замежнага характару ў польскай палітыцы.

Унутры, на ўсходніх акраінах неспакой дайшоў амаль што да немагчымай меры, асабліва на пагранічччы.

Звонку — польскаму міністру заграінчных справаў п. Скржынскаму прышлося выступаць перад Лігаю Народаў у Жэнэве па пытаньню аб палітыцы Польскага Ураду датычна адносін яго да нацыянальных меншасьцяў, насяляючых Польшчу.

Хаця нічога асаблівага ў Жэнэве п. Скржынскім сказана ня было, аднак з кругоў навет блізкіх па духу цяперашняму польскаму міністру заграінчных справаў, а ласьне з правіцовых палітычных польскіх кругоў,—пачуліся галасы нездаволеньня.

I васеньняя сэсія польскага парлямэнту, якая мае пачацца 22-га гэтага кастрычніка, дакляруе быць вельмі цікаваю.

Ня гледзячы на наданыя кабінэту міністраў п. Уладыслава Грабскага поўнамоцтвы на час пярэрвы парлямэнцкіх паседжаньняў, урад польскі не пасьпеў за гэты пэрыяд справіцца са ўсімі труднасьцямі кіраваньня.

Верачы ў адны голыя рэпрэсыйныя меры, ўрад стараўся імі патушыць разросшыся на нашых землях бандытызм, які цяпер як быццам пачынае заціхаць і напэўна пачне шпарка зьмяншацца, калі зьменіцца колёнізацыйна-палянізатарскі курс польскае палітыкі на нашых землях і калі ўрад пайдзе па шляху шырокіх рэформаў у кірунку разрашаньня ўсяе проблемы сваіх адносін да няпольскіх нацыянальнасьцяў у Рэчыпаспалітай.

Ходзяць гутаркі аб рэконструкцыі кабінэту п. У. Грабскага і шмат якія соймавыя фракцыі (клюбы) ўжо выстаўляюць у гэтым сэнсе свае постуляты.

Лявіца, а асабліва социялістычны клюб Сойму (P. P. S.), вельмі крытычна адносіцца да цяперашняга ўраду і штодня ў партыйным органе польскіх соцыялістых „Robotniku“ можам чытаць аб росьце дарагоўлі, ці аб дзеяльнасьці таго ці іншага міністэрства не такой, якая падабалася-б пэ-пэ-эсам.

Што датычыць нашае справы, дык польская лявіца на словах цалком стаіць на нашым баку, пераканаўшыся, што спольшчыць, напрыклад, беларусаў ці сілком прышчапіць ім сваю культуру немагчыма.

Якраз, старога свайго, процілежнага зусім пагляду трымаюцца прадстаўнікі польскага нацыяналізму, аб'яднаныя ў Народна-Нацыянальным Саюзе („Związek Ludowo-Narodowy“) і, як відаць з апошняе рэзалюцыі соймавага клюбу гэтае партыі, польскія нацыяналістыя й далей будуць імкнуцца да... наданьня нашаму краю нацыянальнага польскага характару.

Па лініі нацыяналізму йдзе сьледам за людова-нарадоўцамі й партыя заможнага польскага сялянства „Пяст“ на чале з быўшым два разы прэм'ер-міністрам Вітосам.

За польскімі соцыялістымі ў нацыянальным пытаньні стаіць побач партыя бяднейшага сялянства „Wyzwolenie“, якая, таксама як і соцыялістыя, гатова дамагацца тэрыторыяльнае аўтаноміі для нашых земляў, верачы не беспадстаўна, што толькі тады тут можа пачацца ўсімі жаданы лад і спакой, калі лявіцовая праграма пачне ў нас праводзіцца ў жыцьцё.

Страціўшы, аднак, у асобе свайго найвыдатнейшага лідэра Тугута галаву, партыя гэта знаходзіцца ў палажэньні некаторага раскладу і стараецца ўзмацніць свае сілы аб'яднаньнем з групаю пасла Брыля, якая істнуе ў Сойме, як фракцыя „Сялянскага Саюзу“ („Związek Chłopski“).

Аб нашым Беларускім Пасольскім Клюбе мала што чуваць і магчыма, што ў тактыцы яго, як і раней, ня будзе яснае вытрыманасьці.

Нядаўна толькі газэты пісалі, што дэлегацыя ад Беларускага Соймавага Клюбу, будучы ў прэм'ер-міністра выказвала лёяльнасьць сваю да правядзеньня ўрадам законаў аб мовах нацыянальных меншасьцяў, аднак Клюб сьпяшаецца разьясьніць, быццам дэлегацыя яго казала пану прэм'еру не саўсім тое, аб чым паведамілі газэты.

Ведама, што жменя нашых беларускіх паслоў ніякае рашучае вагі ў Сойме ня мае, і, калі пачнецца барацьба за зьмены ў складзе ўраду, дык яна раз'іграецца, галоўным чынам, паміж польскімі партыямі, паміж левым і правым лагерам.

Як гэта ўсё адбудзецца, пакажа недалёкая будучына.

Але гэткая рознароднасьць у паглядах польскіх палітычных партыяў на нашыя справы напэўна моцна перашкаджае ўраду выпрацаваць тую ці іншую выразную праграму па гэтым пытаньні і зусім магчыма, што рашаць гэтае пытаньне прыдзецца Сойму.

Як-бы ні было, а нам здаецца, што з найбалеўшымі рэформамі ў нашым краёвым жыцьці марудзіць далей ужо нельга.

---

## Палітычны агляд.

Эўропа йзноў увахадзіць у пэрыяд урадовых крызысаў, якія былі вясной закончыўшыся. На першым месцы стаіць Англія, ў якой урад Макдональда дажывае свае апошнія дні. Усе рашуча прадсказваюць упадак кабінэту Макдональда ў гэтым тыдні. Палітычнае палажэньне ў Англіі гэтулькі завастрылася і гэтак злажылася, што трэба спадзявацца ня толькі правалу ўраду, але й роспуску парлямэнту. I толькі новыя выбары можа вырашаць палітычнае палажэньне ў краі.

У мінулым тыдні была назначана экстрэная трохдзённая сэсія ангельскай ніжняй палаты дзеля разрашэньня парлямэнцкага пытаньня. На аснове ангельска-ірляндзката дагавору ў 1921 г. ў Ірляндыі засноваліся дзьве незалежныя дзяржавы: г. наз. вольная Ірляндзкая дзяржава, якая займае палудзенную каталіцкую частку насяленьня і Ульстэр, які займае протэстанскую поўнач. Урад Ульстэру ёсьць пад некаторым уплывам ангельскага ўраду. Граніца між гэтымі дзьвюма часткамі Ірляндзкага вострава яшчэ не ўстаноўлена, а срок, аб якім сказана ў дагаворы і ў працягу якога павінна быць праведзена граніца, ўжо прайшоў. Дзеля гэтага, ўраду Макдональда прыйшлося склікаць парлямэнт на экстрэную сэсію—нармальная мелася пачацца толькі ў лістападзе— і запрапанаваць яму зацьвярдзіць закон аб вызначэньні спэцыяльнай пагранічнай камісіі, ў якую павінны былі ўвайсьці прадстаўнікі: ад Вольнай Ірляндзкай дзяржавы, ад Ульстэру і ад Англіі. Ніжняя палата дзяржаўную прапазыцыю ў ірляндзкай справе пастанавіла прыняць, хаця верхняя палата не згаджалася на гэта. Затое консэрватары і лібэралы, якіх у палаце большасьць, пастанавілі злучыцца, каб правaліць кабінэт рабочай партыі ў іншых пытаньнях, высунутых імі самымі, не чакаючы навет скліканьня васеньняй сэсыі парлямэнту. I дзеля гэтага зацягнулася над'звычайная сэсія. Консэрватыўная партыя ўнясла votum недаверыя ўраду з прычыны вялізнага палітычнага скандалу з рэдактарам рабочай тыднёвай часопісі. А партыя лібэралаў на чале з Асквітам і Л. Джорджам, якая дагэтуль разам з рабочай партыяй складала дзяржаўную большасьць, пастанавіла падтрымаць консэрватараў і галасаваць проці ўраду. Скандальная гісторыя з рэдактарам Гамбрэлем гэткая: яго арыштавалі па загаду паліцэйскай улады за тое, што ён у сваёй часопісі „Workers Weekly“ (Рабочы тыднёвік) зьмяшчаў артыкулы, заклікаўшыя армію і флёт ня слухацца ўлады і абражаўшыя караля. А гэнэральны пракурор пад націскам рабочай партыі загадаў выпусьціць арыштованага рэдактара на волю бяз ніякага суда і сьледзтва ды спыніць справу.

Гэткі паступак галавы суда сільна абурыў усю ангельскую грамадзкую думку. Консэрватары ўнясьлі прапазыцыю аб votum недаверыя міністру справядлівасьці, што павінна выклікаць адстаўку ўсяго кабінэту, а лібэралы ўнясь-

# Агляд прэсы.

### Крэсовая хвароба.

Польская прэса пасьля бандыцкага нападу на цягнік пад Лунінцом шмат пісаць пачала аб способах „лячэньня“ усходніх крэсаў.

Эндэцкая прэса згодна прапануе свае лекі: ваеннае палажэньне (stan wyjątkowy). Левая польская прэса думае, што гэтае „лякарства“ ня толькі ня вылячыць хворага пацыента, але яшчэ больш папсуе справу.

„Kurj. Porannу“ піша:

> Што датычыцца настрою няпольскага крэсовага насяленьня, дык stan wyjątkowy ня толькі не паправіць справы, але яшчэ яе папсуе. Можа некаторыя групы насяленьня й хацелі-б вынятковага стану, але ў масах ён толькі выкліча яшчэ большае нездаволеньне і дасьць новае аружжа для антыпольскае агітацыі. Вынятковымі спосабамі ня можна здабыць сымпатыі насяленьня.

Аб гэтых групах, якім хочацца вынятковага стану ўспамінае і міністар унутраных справаў п. Гюбнэр у гутарцы з супрацоўнікам „Kurj. Polsk.“, кажучь аб сваёй інспэкцыйнай падарожы:

> ... У гутарках з дэлегацыямі я чуў скаргі і жальбы. Крэсовае насяленьне хоча перш за ўсё супакою і дзеля гэтага арганізуе самаабарону. Дэлегацыі дамагаліся, каб я зрабіў усё дзеля зьніштажэньня бандаў. Проста дамагаліся вынятковага стану або ваеннага палажэньня.

Але п. міністар разумее, што споўніць гэтыя жаданьні немагчыма, бо гэта-ж было-б:

> спыненьне констытуцыйных свабод. А гэта амаль што зусім немагчыма, дзеля таго, што ня маем вынятковай уставы, а констытуцыя прадбачыць вынятковы стан толькі у час вайны.

Думка аб ваенным палажэньні надта між інш. спадабалася „Kurj. Warsz.“, і ён піша:

> Фармальна-юрыдычны скэптыцызм ня гучыць добра ў вуснах адміністратара, адказнага перад усімі за бясьпечнасьць і лад у краі. Нам здаецца, што ўрад павінен нам сказаць адкрыта ўсю праўду і ясна паставіць свае постуляты... Калі-б сойм супраціўіўся ўжыць способы, якія адміністрацыя лічыць неабходнымі, дык прынамсі грамадзкая думка ведала-б, дзе тормаз разьвіцьця справы, якая ў цяперашні момэнт можа найважнейшая для Польшчы...
>
> Няўжо ж на ўсё гэта паможа ваеннае палажэньне?

Цікава глядзіць на справу „Rzeczpospolita“, якая піша:

> Забыліся гэткую простую рэч, што способы праўленьня ў кожным краі павінны быць цатарнованы да мясцовых патрэб і варункаў, а перш за ўсё да культурнага разьвіцьця грамадзянства. Найдэмакратычнейшая на сьвеце констытуцыя ў заходняй Польшчы можа даць надта добрыя рэзультаты грамадзкага разьвіцьця і быць крыніцай агульнага шчасьця, але на Усходзе можа пазбавіць уладу ўсялякай павагі ды магчымасьці ўтрымаць лад і парадак.
>
> Мы-б хацелі аднолькава адносіцца да жыхароў Пазнаншчыны, Варшавы і насяленьня, якое жыве пасуседзтву з бальшавікамі, але каб яно ведала, што такое ёсьць сучасная дзяржава і якія абавязкі яе грамадзян.

„Kurj. Poran.“ на гэта адказвае:

> Кожны, хто ведае крэсовыя адносіны, ведае, што ў гэтым няма ані слова праўды. Мы зусім не адносіліся да крэсовага насяленьня гэтак, як адносіліся да жыхароў Варшавы або Пазнані. Наша адміністрацыя на крэсах зрабіла шмат абмылак, але зусім ня гэтакіх, у якіх вінаваціць яе „Rzeczpospolita“; адміністрацыя настроіла насяленьне варожа да польскай дзяржавы вось дзеля таго, што ня гледзячы на польскую констытуцыю, не заўсёды аднолькава адносілася да ўсіх грамадзян дзяржавы бяз розьніцы нацыянальнасьці і рэлігіі, не заўсёды была абаронцам закону і вось дзеля гэтага дала магчымасьць антыпольскай агітацыі.
>
> Абмылкі нашай крэсовай палітыкі трэба якнайхутчэй папрравіць, але зусім ня ў гэтым напрамку, як раіць нацыяналістычная прэса.
>
> Ідучы ў гэтым напрамку, мы-бы толькі гналі ваду на млын варожай для нас агітацыі ў краі і за краем. На крэсах патрэбна сільная, сьмелая, энэргічная ўлада, якая памятае аб небясьпецы і, калі прыйдзе небясьпека, ня траціць галавы. Гэткая ўлада, маючы пад сваім загадам патрэбны лік паліцыі і войска, патрапіць усьпешна змагацца з бандытызмам і без ваеннага палажэньня. Ніякая вынятковая устава не паможа, калі дзеля ашчаднасьці мала будзе пастарункаў, калі пастарунковым будуць мала плаціць, а пастарункі будуць без тэлефонаў.
>
> Крэсам трэба даць не вынятковую уставу, але запраўдную рэальную падмогу дзеля абясьпечаньня жыцьця і мірнае працы. Ваеннага палажэньня крэсы мелі ўжо годзі.

## ПА СЬВЕЦЕ.

### Дзіўны жарт.

Як піша расейская газэта „Руль“, увечары 30 мінулага верасьня на біржу Саюзу Расейскіх Сцэнічных Дзеячоў ў Бэрліне зьявіўся рэдкі за апошнія дні госьць — нямецкі рэжысэр з мэтаю набраць статыстаў для адбітак у National Film.

Невялікі лік кліентаў біржы пачаў падходзіць да рэжысэра для запісу, склікалі тэлефонам тых, хто не зьявіўся. Рэжысэр, як відаць сьпяшаўся, выдаваў квітанцыі на адбіткі, аглядаў людзей, загадваючы, каму трэ'будзе апрануць стаячыя каўнерыкі, капялюшы. Былі шчасьлівыя, якіх рэжысэр ад'значыў асабліва і сказаў, што ім трэба быць абавязкова ў чорных портках. На другі дзень 35 чалавек, адтрымаўшых квітанцыі, сабраліся а 10 гадзіне раніцай на вакзале Zoo, пад камандаю сябра Саюзу Р., і скіраваліся адбівацца на станцыю Rennbahn Grunewald.

На месцы проектованых адбітак ня было нікога і ніякіх сьлядоў якіх-нібудзь падрыхтаваньняў. Цераз гадзіну чаканьня, публіка пачала непакоіцца. Тэлефонам з фільмовага таварыства паведамілі, што ніякіх адбітак гэтае таварыства ня робіць ужо каля 3-х месяцаў. Калі-ж прадстаўнік Саюзу зьявіўся асабіста ў кантору і паказаў сабраныя ўва ўсіх квітанцыі, дык яму растлумачылі, што форма квітанцыяў істнавала каля 8 гадоў назад і што фільм лічыць сябе неадпавядальным за іх.

Хто толькі не выробляе жартаў над эмігрантамі з бышае Расеі, якія фактычна зьяўляюцца людзьмі бяз бацькаўшчыны.

### Сьмерць пры працы.

У сераду на мінулым тыдні кур'ерскі поезд Варшава—Парыж урэзаўся ў групу чугукачных рабочых, якія папраўлялі лінію чугункі, якраз на навароце і не маглі заўважыць надходзіўшага поезда. Двох рабочых былі забіты на месцы.

### Агульная перапісь насяленьня ў Латвіі.

16-га лютага 1925 году ў Латвіі адбудзецца агульная перапісь насяленьня. Уся тэрыторыя дзяржавы падзелена на 23 акругі. Прадбачыцца запрашэньне 35.000 працаўнікоў для перапісі.

### І ў Мэксыцы, як у нас.

8-га гэтага кастрычніка ў мэксыканскім штаце Вэра-Круц 300 азброеных бандытаў напалі на поезд. Аграбіўшы ўсіх пасажыраў, бандыты забілі 60 чалавек, у тым ліку 2 жанчыны й ваенны патруль, вартаваўшы поезд. Мэксыканскі ўрад зараз жа выслаў у пагоню за бандытамі некалькі аддзелаў.

### Камуністыя ў Эстоніі.

Паводлуг вестак з эстонскае сталіцы Рэвалю, падчас арышту дорпацкіх камуністых адабраны ад іх дакумэнты, з якіх відаць, што на 28 кастрычніка было назначана збройнае паўстаньне камуністых у Эстоніі.

Да гэтага часу мела быць роблена падмога з савецкае тэрыторыі ў форме азбройваньня эстонскіх камуністых, пражываючых у С. С. Р. Р. Выясьнена, што ўжо ў ліпні месяцы з часьці ленінградзкага гарнізону быў арганізованы эстонскі аддзел.

Часьць зброі, прызначанай дзеля азбраеньня эстонскіх камуністых, была закопана на савецкай тэрыторыі, недалёка ад эстонскае граніцы.

Знойдзены падробны плян і апісаньне месца, дзе была схована зброя.

Пры арышце прэзэса камуністычнага камітэту Гэйдэмана знойдзены кнігі, якія паказваюць усе установы, якія ў першую чаргу мелі быць захоплены камуністымі.

Асаблівую ўвагу зьвяртае на сябе акуратнае вядзеньне бугальтэрскіх кнігаў, з якіх можна бачыць расходы на пэнсіі, падарожы, дыэты.

Зносіны з С. С. Р. Р. вяліся два разы на тыдзень цераз спэцыяльных кур'ераў, езьдзіўшых цераз граніцу з ведамасьцямі і па інструкцыі.

Эстонскім камуністым удалося консьпірацыйна з'арганізаваць штурмавы батальён, у склад яго ўваходзілі толькі пэўныя эстонскія камуністыя.

### Катастрофа ў тунэлі.

У Нямеччыне ў Майнцскім чугуначным тунэлі адбылася катастрофа. Пасьпешны поезд, з прычыны папсаваньня паравозу, быў спынены ў сярэдзіне тунэлю, і, цераз некалькі мінют, на яго ззаду наляцеў пасажырскі поезд. Глыбокая цемра ў тунэлі перашкаджае паданьню падмогі. Лік ахвяраў яшчэ ня выясьнены; пакуль што, выцягнена 14 трупаў і 20 раненых.

---

кожнага чалавека, але пастанавілі зьніштожыць яе. Узяліся за гэта вельмі лоўка. Барацьба з рэлігіяй вядзецца ў бальшавіцкіх школах.

У гэткай школе вучыцель ня толькі не навучае дзяцей рэлігіі, але — наадварот — вучыць усяго гэтак, каб у дзіцяці захавалася пераконаньне, што рэлігіі, Бога, няма. Старшую моладзь вядуць на анты-рэлігійныя сходы і дэмонстрацыі, дзе ўсе прамоўцы заклікаюць да барацьбы з рэлігіяй і яе прынцыпамі.

Разумеючы, што з душы людзей сталых рэлігійных вераваньняў ня вырвуць, яны стараюцца дэмаралізаваць моладзь і адабраць ад яе найвялікшы скарб, г. зн. веру, якая магла-б быць асновай яе жыцьцёвай моральнасьці.

Яны яшчэ іншым способам зьніштажаюць рэлігію. Перш за ўсё зроблена была рэквізыцыя царкоўнага інвэнтара на карысьць дзяржавы. Пры гэтым дзіка абдзіралі сьвятыні і абразы, нішчылі аўтары і г. п.

Аграбіўшы сьвятыні, пачалі зачыняць іх. Сотні розных цэркваў перарабілі ў залі для сходаў, лазьні і г. п. Адным словам, было сказана, што гэтыя будыніны забіраюцца дзеля грамадзкага карыстаньня, а пад гэтым відам таілася звычайная барацьба з рэлігіяй.

Соцыялістыя — праўда — гэтак сама ня надта прыхільна адносяцца да рэлігіі, аднак устрымоўваліся ад надта яркіх выступленьняў. А калі навет соцыялістычны ўрад ува Францыі калісь зачыняў манастыры і праганяў манахаў, дык не чапаў усё-ж такі касьцёлаў.

Камуністыя ад першай часіны свайго істнаваньня, як дзяржавы, пачалі змагацца з усялякай рэлігіяй, гэткім чынам задаючы гвалт сумленьню сваіх грамадзян. І толькі народ, зморany вайной ды зьнішчаны голадам, — адным словам, народ пазбаўлены ўласнай волі, дзякуючы агульнаму няшчасьцю, ў якім апынуўся народ расейскі, мог гэтак пакорна прыняць тое, што зрабіў і робіць бальшавіцкі ўрад.

Апрача таго, трэба ад'значыць тое, што кіраўніцтва ўладай узялі ў свае рукі жыды, значыцца элемэнт самы скоры да вядзеньня разрушаючай працы. Мы ня хочам, каб нас палічылі за антысэмітаў, дзеля гэтага шырэй ня будзем казаць аб учасьці жыдоў у камуністычных расейскіх урадах. Аднак мы можам зусім бесстаронна ад'значыць, што ўчасьце жыдоў у грамадзкім жыцьці Расеі ёсьць згубай для яе, што над іхнімі галовамі зьбіраецца гэтулькі нездаволеньня, бяды і голаду насяленьня, што яно можа ўзарвацца ў форме нейкага вялізнага агульнага пагрому, які ізноў морам крыві зальецы усю Расею.

Магчыма, што гэта будзе канец камуністычнага панаваньня ў Расеі, — магчыма, што гэта будзе толькі крывавая адплата беднага прыгнечанага і пакрыўджанага жменькай ашалеўшых, крывавых тыранаў насяленьня. Так ці сяк, калі будзе гэтакі ўзрыў, дык гэта будзе рэч страшэнная.

Трэба спытацца, ці справядлівае дамаганьне камуністых, каб выгнаць з жыцьця рэлігію? Ясна, што не. Мы можам спрачацца, ці рэлігія павінна быць цесна зьвязана з дзяржавай. Датычна гэтага могуць быць розныя думкі, дзеля таго, што рэлігіяў маем на сьвеце шмат. Прынцыпова аднак рэлігія, як такая, і рэлігійныя абрады павінны мець поўную абарону дзяржавы. Рэлігійная свабода і свабода спаўняць рэлігійныя абрады павінны быць абясьпечаны дзяржаўнай уладай.

Рэлігія ёсьць адзіная апора і аснова грамадзкай этыкі. Чалавечай душы патрэбны моральныя правілы і законы, якія пазвалялі-б ёй пазнаць тое, што ёсьць дабро і што ліха. Гэтыя праўды дае рэлігія. Яна накладае тормаз на расшумеўшыяся чалавечыя пабуджэньні, яна паказвае шлях, якім трэба йсьці кожнаму, хто ў жыцьці хоча кіравацца сумленьнем чэснага чалавека.

Вось дзеля гэтага, дзяржава, якая зьдзекуецца над рэлігіяй, дазваляе распаўсюджвацца ўсялякаму ліху, якое можа запанаваць у чалавечым жыцьці.

*(Канец у чарод. нумары).*

